# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

22.03.12-28.03.12 г.



**БЕЗ ПРАВА**




НА СВАЮ МАГІЛУ

СТАР. 4-5

**КУДЫ ЗНІКАЮЦЬ**



БЕЛАРУСКІЯ МАДЭЛІ

СТАР. 6-7


# КРОПКА НЕВЯРТАННЯ

## Яна вельмі блізкая ў стасунках не толькі Рэспублікі Беларусь і Еўрапейскага Саюза, але і Рэспублікі Беларусь з Расійскай Федэрацыяй.




*Чарговы «чорны спіс» – цьмяная будучыня*

23 сакавіка падчас чарговага пасяджэння Савета Міністраў замежных спраў ЕС было прынята шмат рашэнняў у адносінах да нашай краіны. Асноўныя зводзяцца да наступнага.

"Чорны спіс" ЕС невыязных з Беларусі ў Еўрасаюз павялічыўся на 29 кампаній і 12 асоб. У лік гэтых новых асоб у ім патрапілі, па інфармацыі з ЕС, толькі два бізнесмены, якія вельмі наближаны да Аляксандра Лукашэнкі і, па сутнасці, з'яўляюцца яго "кашалькамі", — Анатоль Тарнаўскі і Юрый Чыж. Адразу трэба сказаць, што "чорную метку" прапаноўвалася адправіць большаму колу беларускіх бізнесменаў, якія маюць гандлёва-фінансавыя стасункі. Менавіта эканамічныя санкцыі больш за ўсё раздражняюць Аляксандра Лукашэнку.

Можа, таму Еўрапейскі Саюз вырашыў даць чарговы шанс Аляксандру Лукашэнку, каб выправіць у першую чаргу сітуацыю з палітзняволенымі, якія зараз знаходзяцца ў беларускіх турмах.

Іншая справа, што беларускі МЗС вельмі хваравіта адрэагаваў на такое рашэнне Еўрасаюза, дый сам беларускі лідар раней абяцаў жорстка адказаць на "палітыку дыктату" ЕС. Ён адкрыта прызнаў, што ініцыіраваў свой "чорны спіс", згодна з якім шэраг палітычных і грамадскіх дзеячаў, журналістаў ужо не змогуць патрапіць за мяжу. Больш за тое, было абяцана, што ў выпадку "націску на Беларусь" гэты спіс будзе пашыраны. І вось тут сказанаму можна стоадсоткава верыць. Да таго ж, у адрозненне ад сітуацыі з Аляксандрам Казуліным, які быў змешчаны ў турму пасля прэзідэнцкіх выбараў 2006 года і потым пад націскам ЗША быў вызвалены, ці з многімі фігурантамі крымінальных спраў па 19 снежня 2010 года, адпушчанымі да заканчэння іх тэрмінаў, тут найшла каса на камень.

Асноўная прычына, безумоўна, — магутная палітычная і эканамічная падтрымка Расіі, якая асабліва і не ўтойвае сваіх мэт у адносінах да Беларусі.

Асобныя расійскія палітолагі і эканамісты пастаянна дзяўбуць інфармацыйную прастору "саюзнай дзяржавы" пастулатамі кшталту "Беларусі без Расіі не пражыць матэрыяльна".

Самае цікавае, што на дадзены момант яны часткова маюць рацыю. Эканоміка Беларусі, як наркаман са стажам, прывыкла да штогадовых расійскіх ін'екцый і не збіраецца ад іх адвыкаць. Больш за тое, адхіляе агульнапрынятыя рынкавыя механізмы існавання.

*Заканчэнне на стар. 3*

**АФІЦЫЙНА**

*"Беларускі бок шкадуе аб прынятым Саветам Міністраў Еўрасаюза рашэнні аб увядзенні дадатковых санкцый у дачыненні да шэрагу беларускіх грамадзян і прадпрыемстваў. Гэты крок яшчэ больш аддаляе перспектывы нармалізацыі адносін і аднаўлення дыялога па адчувальных для бакоў тэмах.*

*Еўрапейскія палітыкі знаходзяцца ў палоне канфліктнага мыслення, яны застаюцца заложнікамі логікі прымусу і шантажу. Мы вымушаны неадкладна пачаць рэалізацыю комплексу мер рэагавання. Аб такой магчымасці нашы еўрапейскія партнёры былі загадзя пастаўлены ў вядомасць.*

*У сённяшніх умовах беларускі бок не бачыць неабходнасці ў прысутнасці на тэрыторыі Беларусі адкліканых паслоў дзяржаў, якія прагаласавалі за гэтае рашэнне"*, — гаворыцца ў заяве беларускага МЗС.

**НАВІНА**

# НОВЫ ПРЫПЫНАК ЗА… 5 000 ДОЛАРАЎ!

## Прыпынкі па 4 тысячы долараў прастаялі ўсяго тры гады, паведамляе еўрарадыё.

"Мы ж нядаўна мянялі прыпынкі", - усё разумее намеснік дырэктара "Гаррэмаўтадор" Мінгарвыканкама Анатоль Жамоздзік.

Сапраўды, усяго тры гады таму ў Мінску памянялі прыпынкі грамадскага транспарту. Але напярэдадні Чэмпіянат свету па хакеі…

Анатоль Жамоздзік: "Увесь жа горад рыхтуецца да Чэмпіянату свету… Таму да Чэмпіянату свету па хакеі ў 2014 годзе хутчэй за ўсё нейкая часта прыпынкаў паміняецца".

Увогуле, прыпынкі ў Мінску мяняюць чацвёрты раз за апошнія 10 год! Новы прыпынак усталявалі на вуліцы Янкі Купалы, насупраць будынку былой 2-й клінічнай бальніцы. Другі – каля Дому ветэранаў.

Пакуль гэта эксперыментальныя узоры, тлумачаць улады. Калі яны пройдуць выпрабаванні і спадабаюцца людзям, то іх заменяць па ўсёй цэнтральнай частцы Мінска...

Прыпынак каля дома Ветэранаў вырабіла прадпрыемства "Апекс". Як даведалася Еўрарадыё, новы прыпынак каштуе… 5 тысяч долараў!

**НАСТА МАНЦЭВІЧ**

# ШТО СТАНЕ З АДНОСІНАМІ БЕЛАРУСІ І ЕС?

**ДЗЯНІС МЕЛЬЯНЦОЎ, ПАЛІТОЛАГ:**

### "УСЁ ІДЗЕ ДА ЭКАНАМІЧНАЙ ЗАЛЕЖНАСЦІ АД РАСІІ".

— На блізкую перспектыву больш-менш ясна, як будуць развівацца стасункі. Бо калі ў мінулы раз Еўрасаюз уводзіў санкцыі, то ён якраз вырашыў не ўводзіць іх масава. Памятаеце, казалі пра 130 імёнаў? Вырашыў усё ж такі падзяліць іх на кавалкі і пашыраць спіс неўязных невялікімі групкамі асоб. Плюс пачаў абмяркоўваць прадпрыемствы, якія могуць быць у спісе, што пад забаронай. І таму, хутчэй за ўсё, Еўрасаюз цяпер на кожным пасяджэнні Рады Еўрапейскага Саюза будзе падкрэсліваць свае ранейшыя патрабаванні і ўносіць у гэты спіс малымі порцыямі дадатковыя прозвішчы. То бок можна прагназаваць, што ў найбліжэйшы час, прынамсі, да парламенцкіх выбараў у Беларусі адносіны з Еўрапейскім Саюзам будуць пагаршацца. Зараз гэта канфлікт, хутчэй, дыпламатычна-палітычны. Магчыма, справа будзе паступова рухацца ў бок больш сур'ёзных эканамічных мер. Хутчэй за ўсё, і надалей будуць уключаць у гэты спіс прадпрымальнікаў і фірмы. Для беларускай эканомікі гэта не будзе вельмі адчувальна, але стане вельмі раздражняльным фактарам у палітычным сэнсе. То бок вы нам забараняеце ездзіць, а мы забаронім, каб апазіцыянеры не выязджалі. І з кім вы тады будзеце супрацоўнічаць? Пакуль што канфлікт развіваецца ў такім рэчышчы. Ён, канечне, не на карысць ні Беларусі, ні Еўрасаюзу, паколькі, з аднаго боку, перашкаджае нармальна ладзіць гандлёвыя стасункі. Для Беларусі гэта значныя рэпутацыйныя страты. Тут ужо сёння заходні бізнес пабойваецца ўкладваць у Беларусь, бо невядома, што тут будзе, якія кампаніі далей падпадуць пад санкцыі. Гэта значыць, што ўсё больш будзе ўзмацняцца ўплыў Расіі: пачне прыходзіць расійскі капітал, якому такія перашкоды няважныя.

**УЛАДЗІМІР МАЦКЕВІЧ, ФІЛОСАФ:**

### "КАЛІ МЭТА — СТРАЦІЦЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ, ТО МЫ НА ПРАВІЛЬНЫМ ШЛЯХУ".

— Не ведаю. Калі Беларусь хоча страціць незалежнасць, то яна павінна паводзіць сябе, як Прыднястроўская Малдаўская Рэспубліка ці Паўднёвая Асеція, — брутальна, брыдка, па-калгаснаму. Адна справа, калі на вышэйшым узроўні сустракаюцца нармальныя людзі, абмяркоўваюць нармальныя пытанні, разумеюць адно аднаго. А тут базарная сітуацыя. Проста брыдка ад таго, што робяць нашы ўлады. А што будзе з гэтага? Ну, калі нам не патрэбна незалежнасць, наша беларуская дзяржаўнасць, то мы можам назіраць за гэтым і дазваляць ператвараць нашу краіну ў нешта накшталт Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспублікі.




*Вось такое ў нас цяпер акно ў Еўропу*

**УЛАДЗІМІР КОЛАС, ДЫРЭКТАР БЕЛАРУСКАГА ЛІЦЭЯ ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА:**

### "УСЁ ПАВІННА "ЎСТАКАНІЦЦА".

— Цяжка тут даваць прагноз, таму што мы маем справу са стыхіяй у асобе нашага кіраўніцтва. Але, зыходзячы з досведу, з нейкіх назіранняў, можна даць прагноз, што ўсё неяк зноў "устаканіцца". Прагноз гэты не вельмі аптымістычны, тым не менш. Таму што "ўстаканіцца", хутчэй, ад безнадзейнасці, чым ад спадзяванняў на нейкае паляпшэнне. Як бы там ні было, паслы павінны вярнуцца. Магчыма, Еўропа зноў зробіць выгляд, што яе ўдалося падмануць, што яна верыць нейкім абяцанкам. І гэтыя адносіны пойдуць на чарговы віток. Палітвязняў таксама павінны выпусціць. Гэта заложнікі, якіх выпусцяць за імітацыю нармалізацыі адносін. А для чаго гэта ўсё рабілася? Для таго, каб усё ж такі ў той ці іншай ступені прызналі дэ-факта тое, што адбылася падчас апошніх выбараў.

**МАРЫНА, СТУДЭНТКА:**

### "БЕЛАРУСЬ І ЕЎРАСАЮЗ НЕ ВЕДАЮЦЬ, ЧАГО ЯНЫ ХОЧУЦЬ АДНО АД АДНАГО".

— Еўрасаюз і Беларусь адно аднаго вартыя: Еўрасаюз не ведае, што яму трэба ад Беларусі, і Беларусь не ведае, што ёй трэба ад Еўрасаюза. Іх звязваюць глыбокія пачуцці, але яны не ведаюць, што адно з адным рабіць. Беларусь хоча, каб яе пускалі ў Еўропу ў брудных ботах, а яго хоча Еўрасаюз, увогуле не здагадаешся. З такім пафасам яны пра штосьці дамаўляліся, шапталіся ў "кулуарах" і дабавілі ажно 12 чалавек да спіса! Вось каб яны дадалі 12 тысяч! Якія страшныя санкцыі! Тыя, каму некуды трэба ездзіць, ездзяць па дыпламатычных пашпартах, па запрашэнні міжнародных арганізацый. І ўсё класна! Еўрасаюз не ведае, што з Беларуссю рабіць. Блакітныя і без яец? Відавочна! Зганьбілі бедную Далю. Яна мо першы раз у жыцці пабачыла мужыка з яйцамі. Зламалі жаночае шчасце. У наступны раз яны так раззлуюцца, што дабавяць ажно 13 чалавек да спіса. Хай бы Еўрасаюз растлумачыў, чаго яны хочуць.

**ДАКУМЕНТАЛЬНА**

**У выніковым дакуменце, што быў прыняты 23 сакавіка ў Бруселі на пасяджэнні Савета Міністраў замежных спраў краін ЕС, адзначаецца: спіс прадстаўнікоў Беларусі, супраць якіх дзейнічаюць санкцыі, пашыраны за кошт «людзей, адказных за сур'ёзныя парушэнні правоў чалавека або рэпрэсіі ў дачыненні да грамадзянскай супольнасці і палітычнай апазіцыі».**

**Еўрасаюз зноў заклікае беларускія ўлады неадкладна вызваліць і рэабілітаваць усіх палітычных зняволеных.**

**У дакуменце асуджаецца адмаўленне ў задавальненні касацыйнай скаргі праваабаронца Алеся Бяляцкага і асуджэнне на два гады і адзін месяц пазбаўлення волі актывіста апазіцыі Сяргея Каваленкі.**

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

# КРОПКА НЕВЯРТАННЯ

А расійскія палітыкі самага высокага ўзроўню ледзь ці не штодзень заяўляюць на ўвесь свет пра падтрымку Беларусі і яе ўлад.

Вы асабіста верыце, што алігархічная Расія ажыццяўляе гэтую падтрымку бескарысліва?

Што засмучае, дык гэта ўзмацненне сімпатыі беларускіх грамадзян да такой ідэі, як аб'яднанне з Расіяй (паводле апошніх даных Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў).

Зараз афіцыйны агітпрап у чарговы раз прамые вушы шараговых і не толькі беларусаў наступнай тэзай — маўляў, вам горш зажывецца заўтра, таму што гэтага захацела наша "пятая калона". У гэта многія, пэўна, паверацъ.

У канчатковым выніку прайграюць амаль усе — шараговыя і не вельмі беларусы (іх заробкі, калі і вырастуць, то не заўтра і ненашмат), наша ўлада (узровень даверу да яе наўрад ці павысіцца), апазіцыянеры (усё роўна нялёгка з пячаткай "вораг народа"), незалежныя СМІ (іх будуць яшчэ больш заціскаць), грамадзянская супольнасць (наўпрост закрыюць астатнія арганізацыя з яе), Захад (талерантная, здольная, выбітная Беларусь яшчэ больш аддаліцца ад яго).



*Рускі мядзведзь яшчэ сябе пакажа*

Пра палітзняволеных увогуле гаварыць цяжка і балюча.

Выйграе, як і ў апошнія тры гады, толькі адзін палітычна-эканамічны суб'ект — Расія. З усімі вынікамі адсюль.

**ВІКТАР АЛЯШКЕВІЧ**

# НЕ МАГУ МАЎЧАЦЬ!

## Сяргей Вітушка прапануе звярнуцца да краін-суседак Беларусі ў сувязі са справай Сяргея Каваленкі

"Я хацеў бы выказацца на рускай мове, бо звяртаюся да нашых суседзяў – Літвы, Латвіі, Расіі, Украіны, Польшчы – з просьбай дапамагчы ў гэтай драматычнай справе Сяргея Каваленкі.

Как показало дело Коваленко, в Беларуси за публичное использование национального флага можно получить реальный срок – больше двух лет. Это возмутительно, преступно и так не должно быть.

Хочу привести пример из Литвы: в советское время в Вильнюсе можно было увидеть на улицах, на стенах зданий герб Погоня (Vytis).

Символ Погони можно было увидеть на Острой браме, во дворике университета. Табличка с гербом висела на Кафедральном соборе. Мы приезжали из Минска и пальцем показывали: «О, смотрите!». Тут можно было увидеть то, что было запрещено в Беларуси. В конце советского периода была даже такая практика, что вывешивалось вместе три флага: советский флаг, флаг советской Литвы и национальный триколор. Там существовали определенные правила: что должно висеть справа, а что слева, но главное, что никому это не мешало. Вполне цивилизованный подход.

Или в России, например, тоже используются символы как старой, имперской России, так и символы советских времен. И никому это не мешает, и никто не сажает на два года за использование таких символов.

Поэтому я просил бы помощи у стран-соседей. Например, геральдические комиссии этих стран могли бы подготовить какое-то информационное обращение. Это было бы полезно для всего белорусского общества, для власти в целом и работников правоохранительной системы в частности.

Может быть, это возбудило бы в их душах другие чувства и сформировало иные мысли. И не умирал бы человек сегодня из-за своей принципиальной позиции, и власть бы не уничтожала ни людей, которые не согласны с официальной государственной линией, ни их символы.

**ДАРЭЧЫ**

**Сяргей Вітушка, літаратар (нядаўна ў Мінску прайшла прэзентацыя ягонай аўдыёкнігі "Дзінь-Дзілінь: пара гуляць у казкі"), гісторык, адзін з лідараў беларускага дэмакратычнага руху моладзі напрыканцы 1980-х, старшыня легендарнага клубу "Талака".**

# АХОЎНІКІ ЦІ ЗНІШЧАЛЬНІКІ?

## Першае ў гэтым годзе пасяджэнне раённай Рады па захаванні і памнажэнні гісторыка-культурных каштоўнасцей, добраўпарадкаванні і сацыяльным развіцці Горак і раёна скончылася канфузам.

### ПАЛІЧЫЛІ ДЗЯРЖАЎНЫЯ ГРОШЫ…

Аднак канфуз гэты, здаецца, не заўважылі ні сама Рада, ні Горацкія райвыканкам і райсавет, якія яе зацвердзілі, піша www. horki.info. Між тым, было прынятае рашэнне з просьбай аб выключэнні (!) з рэестра горацкіх архітэктурных рарытэтаў двух унікальных будынкаў на вуліцах Цімаразева і Мічурына.

Дарэчы, ў пазначаную Раду ўваходзяць рэктар Беларускай сельска-гаспадарчай акадэміі Аляксандр Курдзэка і начальнік аддзела адукацыі райвыканкама Святлана Браніцкая. Магчыма, як жартуюць зласліўцы, прысутнасць гэтых па азначэнні інтэлігентных і культурных людзей ураўнаважваецца прысутнасцю ў складзе кіраўніцтва адкрытага праўладнага прыхільніка — старшыні мясцовай арганізацыі "Белая Русь" Аляксандра Чачоткіна. Ясная справа, што такія "смелыя" рашэнні на ўзроўні сціплай раённай інстанцыі не маглі б быць прыняты без згоды кіраўніцтва раёна, вобласці, а то і вышэй. Нездарма ў сувязі з такім рашэннем Рады ў якасці пэўнага апраўдання і тлумачэння яе прысуду ахоўным пабудовам узгадваецца імя прэм'ер-міністра Міхаіла Мясніковіча, які падчас свайго рабочага візіту ў Горкі загадаў "лічыць дзяржаўныя грошы і быць ва ўсім ашчаднымі"…

### ПАРАЗАЎ, НА ЖАЛЬ, БОЛЬШ

Па нашай просьбе сітуацыю каментуе старшыня абласной арганізацыі ГА "Беларускае добраахвотнае Таварыства аховы помнікаў архітэктуры і культуры" Уладзімір Краўчанка:

— На жаль, закон, згодна з якім ахоўваюцца помнікі, не прапісаны ва ўсіх дэталях. Там няма пакаранняў за такія "ініцыятывы". Ахова помнікаў і беражлівае стаўленне да іх дэкларуюцца, а падмацавання гэтаму ў выглядзе пазначэння, напрыклад, тэрмінаў прывядзення помнікаў у парадак у залежнасці ад іх узросту, вызначэння парадку адказнасці мясцовых органаў улады за пастаянны дзейсны кантроль за станам помнікаў -- у законе няма..

**ВІКТАР ВОЙТ**

# БЕЗ ПРАВА НА МАГІЛУ

Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва расстралялі. Іх целы, як у нас заведзена, бацькам не аддалі.




*Да смяротнага пакарання няма адназначнага стаўлення*

Тых, у дачыненні да каго прыведзены ў выкананне смяротны прысуд, хаваюць без родных і блізкіх – сунулі цела ў мех і закапалі. Так, да смяротнага пакарання часцей за ўсё прыгаворваюць далёка не анёлаў, але...

Ці правільна, што маці не можа пахаваць сына, ці хаця б атрымаць яго прах, прыйсці на магілу?

Ці спрабавалі калі-небудзь пераглядзець гэтую норму?

І чаму смяротнае пакаранне і ўсё, што з ім звязана, рэгулюецца не законам, а ўсяго толькі нейкай інструкцыяй?

Пра гэта і не толькі **"Тут і цяпер"** распытала экспертаў.

## АДМОВІЛІСЯ ДАВАЦЬ ГРОШЫ НА КНІГІ ДЛЯ ДЗІЦЯЧАЙ КАЛОНІІ

**Дэпутат Палаты прадстаўнікоў некалькіх скліканняў Вольга Абрамава выратавала чалавека, асуджанага на смяротнае пакаранне за забойства. Паводле яе слоў, гэта быў адзіны выпадак у Беларусі, калі смяротны прысуд перагледзелі.**

"Мне даводзілася сутыкацца з прыгавораным да смяротнага пакарання, і я дамаглася перагляду яго прысуду, – распавядае Вольга Міхайлаўна. – Ён пайшоў як саўдзельнік злачынства. У тым выпадку суд не ўзяў у разлік даныя, якія прадставіў эксперт па балістыцы з больш чым 30-гадовым стажам.

Па сцвярджэннях чалавека, за якога я хадайнічала, ён знаходзіўся ў той жа машыне, у якой яго стрыечны брат расстраляў уладальнікаў аўто. Ён казаў, што не ведаў пра тое, што брат задумаў забойства. І паколькі апошні ўцёк у Польшчу, вінаватым зрабілі таго, хто апынуўся пад рукой. Ён звярнуўся да мяне. Раней я выступала ў парламенце з заклікам увесці мараторый на смяротнае пакаранне і потым неаднаразова гэта паўтарала.

Я сустрэлася з гэтым чалавекам і звярнулася да прэзідэнта, прывёўшы тыя даныя, якія даў мне адвакат. Справа была перагледжана. Гэта быў адзіны такі выпадак. З камісіі па памілаванні мне прыйшоў адказ, што гэта было зроблена ў адказ на мой зварот да прэзідэнта".

> "Выдаць на рукі цела з дзіркай у галаве ці нават прах смяротніка ніхто не хоча. Вы толькі ўявіце сабе перадачу праху сваякам! Адпрацаваны шлях прасцей для сістэмы – выкраслілі чалавека са спісу жывых, і ўсё на гэтым"

Аб тым, што сваякоў не інфармуюць, дзе пахаваны асуджаныя на смерць, Абрамава даведалася не так даўно.

"Усё ведаць немагчыма, да таго ж гэта не тая рэч, якая рэгулюецца законам, – кажа яна. – Я лічу, што нават калі б сваякам вярталі прах, то гэта было б па-чалавечы. Але мы з вамі лічым так, а на дзяржаўным узроўні мяркуюць інакш. Дарэчы, я добра памятаю, як у парламенце збіралі грошы на тое, каб закупіць кнігі для дзіцячых калоній. Дык вось, адсоткаў 10 дэпутатаў адмовіліся здаць грошы з фармулёўкай "Гэта не дзеці, гэта злачынцы!"

Таму ўсё гэта досыць сумна...".

ДАРЭЧЫ

## "ЦЕЛЫ ПАКУЮЦЬ У ПОЛІЭТЫЛЕНАВЫЯ МЯХІ І ЗДЗЯЙСНЯЮЦЬ ПАХАВАННЕ"

**Былы начальнік сталічнага СІЗА № 1 Алег Алкаеў, які кіраваў спецгрупай па выкананні смяротных прысудаў, у сваёй кніжцы апісаў адну з працэдур пахавання расстраляных.**

"Пасля расстрэлу целы асуджаных пакуюць у поліэтыленавыя мяшкі і здзяйсняюць пахаванне, – распавядае Алкаеў. – Паколькі месцы пахавання цел пакараных з'яўляюцца тайнай, я больш нічога на гэтую тэму гаварыць не буду".

Дарэчы, Алкаеў быў катэгарычна супраць крэмацыі цел расстраляных.

"Я доўга разважаў над прапановай тагачаснага міністра ўнутраных спраў Юрыя Сівакова, раіўся са сваімі супрацоўнікамі і прыйшоў да цвёрдага перакանання, што ад прапановы міністра аб спальванні трупаў пакараных у крэматорыі варта адмовіцца. Прычына была ў тым, што гэтае мерапрыемства, хоць і нязначна, але пашырае кола асоб, пасвячоных у працэдуру смяротнага пакарання. Узнікала рэальная пагроза расшыфроўкі асабістага складу спецыяльнай групы перад супрацоўнікамі крэматорыя. Акрамя таго, нам было неабходна падганяць дату расстрэлу асуджаных да графіку работы крэматорыя, што таксама стварала шмат праблем.

Пры такіх умовах, па маім перакананні, рана ці позна, але ўцечка інфармацыі адбудзецца, і пра тое, што целы пакараных спальваюцца ў крэматорыі, будзе вядома сваякам асуджаных. А ведаючы яшчэ і дату пахавання, шляхам нескладаных назіранняў можна будзе вылічыць транспарт, якім целы дастаўляюцца ў крэматорый, а затым і месца выканання прысуду. Ведаючы, што адчуваюць блізкія сваякі і сябры асуджаных да смяротнага пакарання, я смела магу сказаць, што наступствы маглі б быць проста непрадказальнымі. Таму ў прыняцці рашэння па пытанні крэмацыі трупаў я зыходзіў з крыху цынічнай у дадзеным выпадку прымаўкі, якая, між тым, часта прымяняецца ў турме: "Сцеражонага Бог беражэ, а несцеражонага – канвой пільнуе".

## ТРЭБА ЎВЕСЦІ МАРАТОРЫЙ НА СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ

**Так лічыць праваабаронца, у мінулым дэпутат Вярхоўнага Савета Людміла Гразнова.**

"Калі забіваюць, то не турбуюцца з нагоды макіяжу, – дзеліцца думкамі Людміла Мікалаеўна. – Таму трэба зыходзіць з асноўнага: ва ўмовах, калі суд не ўяўляе сабой незалежную галіну ўлады, калі следства не здольна да самастойных дзеянняў, забойства дзяржавай чалавека з'яўляецца непрымальным!

Смяротнае пакаранне, якое здзяйсняецца з дазволу закона, недапушчальнае. Пажыццёвае зняволенне дазваляе выключыць прымяненне смяротнай кары. Неабходна ўводзіць мараторый на смяротнае пакаранне. Сёння гэта могуць зрабіць парламент і А.Лукашэнка".

## НІХТО НЕ ХОЧА БЫЦЬ ЗАБОЙЦАМ

**Старшыня РПГА "Беларускі Хельсінкскі камітэт" Алег Гулак спрабуе зразумець логіку тых, хто выконвае смяротныя прысуды.**

"У нас ніколі не аддавалі сваякам целы тых, у дачыненні да каго прыведзены ў выкананне смяротны прысуд, – кажа Гулак. – У адрозненне ад той жа амерыканскай сістэмы, дзе прылюдна забіваюць і ўсё вам выдаюць. Там людзі прысутнічаюць нават пры пакаранні. У нас жа проста выкрэсліваюць чалавека, і ўсё на гэтым. Тыя, хто мае дачыненне да сістэмы выканання пакаранняў, разважаюць прыкладна так: месца пахавання смяротніка можа стаць месцам паломніцтва. Напрыклад, сваякі ахвяры могуць зладзіць там акт вандалізму. Альбо гэтае месца можа стаць пунктам "крышталізацыі" нейкіх дэструктыўных сіл.

Выдаць на рукі цела з дзіркай у галаве ці нават прах смяротніка ніхто не хоча. Вы толькі ўявіце сабе перадачу праху сваякам! Адпрацаваны шлях прасцей для сістэмы – выкраслілі чалавека са спісу жывых, і ўсё на гэтым".

## ТРЭБА МЯНЯЦЬ ЗАКАНАДАЎСТВА АБ ПЕНІТЭНЦЫЯРНАЙ СІСТЭМЕ

**Былы суддзя Канстытуцыйнага суда вядомы юрыст Міхаіл Пастухоў лічыць няправільным, што працэдура смяротнага пакарання рэгулюецца не законам, а ўсяго толькі інструкцыяй на ўзроўні МУС.**

"Дзяржава не мае права распараджацца жыццямі сваіх грамадзян, а калі яна забівае іх, дык трэба аддаваць целы бацькам, – разважае Міхаіл Іванавіч. – Трэба вырашаць асноўнае пытанне – ці магчыма смяротнае пакаранне, і калі ў выключных выпадках яно ўсё ж такі магчымае, то трэба змяніць яго працэдуру: запрашаць родных на ажыццяўленне гэтай кары, як робіцца ў той жа Амерыцы, дазволіць блізкім развітацца і забраць цела.

Я лічу няправільным, што такое пытанне рэгламентуецца нейкімі суперсакрэтнымі актамі, інструкцыямі, пра існаванне якіх ведае абмежаваная колькасць людзей. На мой погляд, гэтыя працэдуры трэба абнародаваць.

> "І я перакананы, што нам патрэбна новае заканадаўства аб пенітэнцыярнай сістэме. Сістэма адбывання пакарання павінна быць цывілізаванай".

Калі ўжо загаварылі на дадзеную тэму, то я лічу важным таксама апублікаваць і правілы знаходжання асоб у месцах пазбаўлення волі, у турмах, СІЗА – гэта ўсё павінна быць на ўзроўні закона, а не на ўзроўні нейкіх унутраных інструкцый. Правілы і забароны, устаноўленыя яшчэ ў 30-х гадах, павінны быць сур'ёзна перагледжаны.

І я перакананы, што нам патрэбна новае заканадаўства аб пенітэнцыярнай сістэме. Сістэма адбывання пакарання павінна быць цывілізаванай. Неабходны закон (менавіта закон, з якім мог бы азнаёміцца кожны!) аб парадку заключэння пад варту, парадку пазбаўлення волі, адбывання пакарання і г.д.".

**МАРЫНА МІТ**



*Растраляць лягчэй за ўсё*

**СЛЁЗЫ МАЦІ**

**"11 сакавіка я бачыла сына апошні раз, са мной усе былі занадта ветлівымі ў СІЗА КДБ, і толькі цяпер я разумею, што гэта было не проста так, – распавяла журналістам Любоў Кавалёва, маці расстралянага Уладзіслава Кавалёва. – А праз два дні да Улада не дапусцілі адваката, сказаўшы, што такога зняволенага Кавалёва ў СІЗА КДБ няма. Але я спадзявалася да апошняга…**

**Я ведаю, што целы расстраляных не выдаюць сваякам, але хачу, каб мне аддалі. Раз ужо ўсклалі на яго такі грэх, то няхай аддаюць. Каб я яго пахавала, каб магла б яму хоць кветкі прынесці, каб людзі прынеслі, а не так, да пад'езду… І каб міліцыя ды спецслужбы не хапалі тых, хто ідзе з кветкамі ды свечкамі…".**

# БРЫТАНЦЫ – ЗА БЕЛАРУСЬ

19 сакавіка ва Універсітэцкім каледжы Лондана адбылася прэзентацыя новай кнігі вядомага брытанскага гісторыка Нормана Дэвіса, адзін з раздзелаў якой прысвечаны гісторыі Вялікага княства Літоўскага.

Карэспандэнт **"Тут і цяпер"** папрысутнічаў на дыскусіі, удзел у якой узялі літоўскія гісторыкі і прадстаўнікі беларускай грамады Вялікабрытаніі.

## БЕЛАРУСАЦЭНТРЫЧНАЯ МАДЭЛЬ ВКЛ

Новая кніга аўтарытэтнага брытанскага гісторыка Нормана Дэвіса "Зніклыя каралеўствы. Гісторыя напаўзабытай Еўропы" (Vanished Kingdoms: The History of Half-Forgotten Europe) пабачыла свет увосень. Таўшчэзны том апавядае пра 15 дзяржаў, якія існавалі на еўрапейскіх абшарах на розных этапах гісторыі, але ўрэшце капітулявалі ў барацьбе за выжыванне: ад Каралеўства вестготаў на поўдні Францыі (5 ст. н.э.) да Савецкага Саюза.

Асобны раздзел кнігі прысвечаны гісторыі і спадчыне Вялікага княства Літоўскага, а таксама лёсу нацый, якія з яго выйшлі. Пры гэтым, у адрозненне ад большасці замежных гісторыкаў, якія дзесяцігоддзямі ігнаравалі беларускі складнік у княстве, Дэвісава мадэль ВКЛ беларусацэнтрычная.

"Чаму пры разглядзе ВКЛ я ўзяў за аснову сучасных беларусаў? Найперш таму, што беларускія землі складалі аснову княства. Апроч таго, я хацеў зацікавіць чытачоў, якія прызвычаіліся бачыць знак роўнасці паміж гістарычнай Літвой і сучаснай, а гэта не так.

Брытанскі гісторык Дэвіс называе ВКЛ "дэмакратычнай еўрапейскай дзяржавай" адносна панянцяў таго часу, а таксама пагаджаецца з меркаваннем, што заможных і адукаваных жыхароў "дзяржавы ад Чорнага да Балтыйскага мора" можна назваць палітычнай нацыяй. Пры гэтым тыя, хто лічылі сябе ліцвінамі, маглі мець рознае этнічнае паходжанне, размаўляць на розных мовах. Калі ў 18–20 стагоддзях пачалі фарміравацца сучасныя нацыі, з калыскі ВКЛ (якая на той час ужо зніклі ў абдымках Расійскай імперыі) паўсталі пяць нацыянальных рухаў: літоўскі, беларускі, украінскі, польскі і габрэйскі. Сёння, на думку Дэвіса, чатыры краіны могуць лічыць сябе пераемнікамі ВКЛ – Беларусь, Літва, Украіна і Польшча.

## САВЕТЫ ЗАБАРАНЯЛІ БЕЛАРУСАМ ТОЕ, ШТО ДАЗВАЛЯЛІ ЛІТОЎЦАМ

Дыскусійную частку распачаў шматгадовы старшыня Англа-беларускага таварыства Джым Дзінглі, які не ёсць прафесійным гісторыкам, але цудоўна валодае беларускім гістарычным і сучасным кантэкстам.

*Заканчэнне на стар. 8*

# КУДЫ ЗНІКАЮЦЬ БЕЛАРУСКІЯ

## Раз на два гады ў Беларусі адбываецца ўсенародная забава – Нацыянальны конкурс прыгажосці "Міс Беларусь".

*Да вызначэння новай галоўнай беларускай прыгажуні яшчэ процьма часу – фінал конкурсу "Міс Беларусь-2012" прызначаны на пачатак мая. У чаканні гэтай падзеі* **"Тут і цяпер"** *паспрабавала падлічыць, колькі ўсяго ў нашай краіне разнастайных "міс" і дзе яны апынаюцца пасля заканчэння "тэрміну прыдатнасці".*




*Мадэлі сваё бяруць, як ні круці, формамі*

### АДКУЛЬ НОГІ РАСТУЦЬ

Насамрэч гісторыя беларускіх прыгажунь на подыумах свету пачалася значна раней, амаль чвэрць стагоддзя назад. У 1988 годзе ў СССР прайшлі першыя конкурсы прыгажосці: спачатку ў Маскве, а потым і ў іншых гарадах. У Беларусі ён называўся "Мінская прыгажуня", а выйграла яго сталічная студэнтка Ліка Ялінская – цяпер спявачка і масквічка Анжаліка Агурбаш. Праз год віцяблянка Марыя Кежа стала першай "Міс Беларусь" (тады конкурс называўся "Панна Беларусь-1989"), а затым – "Міс СССР-1990", уласна кажучы, другой і апошняй носьбіткай гэтага тытулу, бо СССР неўзабаве развалiўся. (Зрэшты, наша Маша ўсё ж паспела выкарыстаць шчаслівы білецік лёсу – выйшла замуж і з'ехала ў Францыю, працавала галоўным дызайнерам дома мод Lancel, потым заснавала імянны брэнд і занялася вытворчасцю дызайнерскіх сумак.)

А конкурсаў прыгажосці праз нейкі час пасля распаду "вялікага магутнага" развялося столькі, што толькі паспявай лічыць. І ўсё ж давайце паспрабуем. Сёння, акрамя агульнанацыянальнага конкурсу "Міс Беларусь", штогод праводзіцца конкурс "Міс Мінск", гэтак жа, як практычна ва ўсіх абласных цэнтрах адбываюцца выбары мясцовых каралеў прыгажосці.

Рэгулярна шукаюць "міс" у многіх райцэнтрах, сярод якіх Ліда, Наваполацк, Шклоў, Барысаў, Дуброўна і яшчэ два дзясяткі гарадоў. Каб не паўтарацца, арганізатары выдумляюць назвы, прывабнейшыя адна за адну: "Полацкая княжна", "Міс Прынёманне" і "Міс Прыбужжа", "Крыштальная німфа", "Міс Снягурка" і г.д. Свае конкурсы прыгажосці праводзіць кожная паважаючая сябе ВНУ, а іх "міс" атрымліваюць шанс вызначыцца, напрыклад, на міжнародным конкурсе сярод аграрных ВНУ "Міс СНД" ці міжуніверсітэцкім конкурсе "Каралева Вясна". Ды што там! Прыгажосці ўсюды ў нас дарога – хоць у "Беларусбанку", хоць у БРСМ, хоць на "Камінтэрне", хоць у аграпрамысловым комплексе, хоць у байнэцы, хоць у каледжы лёгкай прамысловасці (усе пералічаныя маюць свае конкурсы прыгажосці). Здаецца, прасцей пералічыць, у якіх установах і на прадпрыемствах НЕ выбіраюць шматлікіх "міс" і "місіс". Хіба што ў дзіцячых садках і дамах састарэлых.

**ДА ВЕДАМА**

Конкурс прыгажосці "Міс Беларусь" ладзіцца з 1998 года. Сярод яго арганізатараў у свой час былі міністэрствы культуры і адукацыі, Мінгарвыканкам, Нацыянальная школа прыгажосці, Белтэлерадыёкампанія і БРСМ. З 2008 года конкурс арганізоўвае АНТ. Пачынаючы з 2004 года ў конкурсу з'явіўся сімвал – выробленая з белага золата карона з 500 фіянітамі і тапазамі (пераходная ўзнагарода). Акрамя таго, пераможцаў у розныя гады заахвочвалі і больш значнымі прызамі: так, у 2010-м гэта было 50 мільёнаў беларускіх рублёў, у 2008-м – кватэра ў Мінску, у 2004-м – 5000 долараў.

Хтосьці скажа, што гэта надта шыкоўна для маладзенькіх "даўганожак", якім і так у жыцці падфарціла са знешнасцю. Аднак перш чым зайздросціць, параўнайма: пераможцы конкурсу "Міс Расія-2012" Лізе Галаванавай дасталіся эксклюзіўная карона коштам 1 мільён долараў, прыз у 100 тысяч долараў і грант на навучанне ў любой ВНУ свету.

### ПАЗНАЕМ МЫ ІХ ПА ГАЛАСАХ

На жаль, для карэнных мінчан сярод галоўных прыгажунь краіны няма ніводнай ураджэнкі сталіцы. "Міс Беларусь" у розныя гады былі:

**1998 – Святлана Крук, Гродна.** Удзельнічала яшчэ ў некалькіх конкурсах прыгажосці, працавала мадэллю ў Італіі, Кітаі, ЗША. Цяпер жыве ў Маскве, выкладае матэматыку, у 2010 годзе была прызнана "Настаўнікам года Масквы". Пры гэтым працягвае супрацоўнічаць з мадэльнымі агенцтвамі і, паводле сведчанняў беларускіх знаёмых, выглядае выдатна. Замужам, выхоўвае двух сыноў.

**2000 – Ганна Стычынская, Магілёў.** Працавала мадэллю, потым дырэктарам па мадэлінгу. У міжнародных конкурсах не ўдзельнічала: па афіцыйнай версіі – таму, што была непаўналетняй; паводле меркавання самой Ганны – таму, што арганізатарам трэба было "прасунуць" іншых дзяўчат. Цяпер прафесійны рэкламіст, пастаноўшчык дэфіле на многіх мерапрыемствах. Не замужам, асабістае жыццё не каментуе.

**2002 – Вольга Неўдах, Брэст.** Акрамя ўдзелу ў конкурсах "Міс Еўропы" і "Міс свету" вызначылася на міжнародным конкурсе выканальніцкіх мастацтваў у Галівудзе. Замужам, выхоўвае дачку. Дарэчы, яна ці не адзіная, хто не перабраўся жыць у сталіцу. Кіруе брэсцкім філіялам "Студыі моды Сяргея Нагорнага". На натуральнае здзіўленне навакольных спакойна адказвае: "Тут не так шмат, як у сталіцы, месцаў, дзе можна патусавацца, але мне гэта ўжо нецікава. Затое ў Брэсце таксама можна жыць і рэалізоўваць свае мары".

**2004 – Вольга Антропава, Полацк.** Пасля конкурсу некалькі год жыла ў ЗША, супрацоўнічала з вядучымі сусветнымі мадэльнымі агенцтвамі, але потым вярнулася ў Мінск. Займаецца тым, што падабаецца, – дызайнам інтэр'ераў. Не замужам.

# ПРЫГАЖУНІ ПАСЛЯ ПОДЫУМУ

**2006 – Кацярына Літвінава, Магілёў.** Была камерцыйным дырэктарам у мадэльным агенцтве, актыўна спрабавала сябе ў амплуа тэлевядучай, цяпер працуе спецыялістам па рэкламе. Не замужам.

**2008 – Вольга Хіжынкова, Віцебск.** Пасля заканчэння вучылішча лёгкай прамысловасці пераключылася на журналістыку і паступіла ў адпаведную сталічную ВНУ, працуе мадэллю, тэлевядучай. Не замужам.

**2010 – Людміла Якімовіч, Гродна.** Удзельнічала яшчэ ў некалькіх конкурсах прыгажосці, зараз спявае ва ўласным поп-гурце і вызначаецца з далейшай будучыняй – ці то прафесійны псіхолаг, ці то дырэктар школы для юных лэдзі, ці проста жонка і маці. На дадзены момант, зрэшты, не замужам.

> "Працей пералічыць, у якіх установах і на прадпрыемствах НЕ выбіраюць шматлікіх "міс" і "місіс". Хіба што ў дзіцячых садках і дамах састарэлых".

## З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

"Міс Беларусь-2010" **Людміла Якімовіч**, якая крыху больш чым праз месяц перадасць карону наступнай каралеве прыгажосці, сцвярджае, што зробіць гэта без шкадавання:

– Насамрэч я ўжо атрымала ад конкурсу калі не ўсё, што магла, то вельмі многае. Перадусім узгадваю эмоцыі, якія перапаўнялі мяне падчас узнагароджання – пазней я выходзіла і на подыум "Міс свету" ў Кітаі, і стаяла ў кароне на "Miss Supranational" у Польшчы (з гэтага конкурсу летась Людміла прывезла 2-е месца, карону віцэ-міс і прыз у 5000 долараў. – Рэд.), але пачуцці былі ўжо не тыя. Цяпер я разумею, што з нецярпеннем чакаю 4 мая, бо зноў буду датычная да таго мора пазітыву, які пануе на гэтым конкурсе, і перадам частку яго наступнай "Міс Беларусь". Я ўпэўненая, што, хто б ні перамог сёлета, гэта будзе годная дзяўчына, і жадаю ёй толькі ўдачы на далейшых міжнародных конкурсах.

Наколькі "Міс Беларусь" змяніла маё жыццё? Даволі істотна, пачынаючы з месца жыхарства – я цяпер жыву ў Мінску. У дзяцінстве я займалася музыкай, але потым закінула – вучоба, заняткі спортам, словам, нейкія больш прагматычныя рэчы. А зараз я да гэтага вярнулася. Ёсць магчымасць займацца тым, што мне падабаецца – у нас з сябрамі свой музычны гурт, дзе я спяваю і танцую. І хоць апынулася ўсё не так проста, як здавалася, але я атрымліваю асалоду нават ад самога працэсу, не прыспешваючы вынікі. Няхай першыя водгукі пра нашу творчасць былі не вельмі пазітыўнымі, кшталту, "мне ўжо смешна", але мы будзем працягваць працаваць, і, мяркую, поспех прыйдзе. Універсітэцкая ж адукацыя для працы пакуль не спатрэбілася, але мая спецыяльнасць – юрыдычная псіхалогія, мне здаецца, у жыцці будзе карысная.

## БЕРАЖЫЦЕ ЖАНЧЫН!

Дарэчы, займальная статыстыка. Калі ўважліва праштудзіраваць вынікі конкурсаў прыгажосці ў Беларусі, то атрымаем наступнае: найбольш паспяховыя з нашых "міс" – Вольгі (акрамя трох "Міс Беларусь", у гэты спіс можна ўключыць экс-дырэктара Нацыянальнай школы прыгажосці Вольгу Сярожнікаву, цяперашніх тэлевядучых Вольгу Курышка і Вольгу Багатырэвіч, лепшую сярод ВНУ СНД "Каралеву Вясну-2010" Вольгу Нікіфараву).

А вось іншая статыстыка больш сумная. Калі з пераможцаў конкурсу прыгажосці цяпер толькі трое жывуць за межамі краіны, то беларускамі з дзяўчат, якія абралі кар'еру мадэлі прафесіяй, а не хобі, абсалютная большасць застаюцца толькі па пашпарце.

Адмыслоўцы могуць запярэчыць: маўляў, прыгажуня і мадэль – зусім розныя рэчы. І яно, у прынцыпе, правільна, але да таго часу, пакуль прыгажунь у нас будуць выбіраць па дэфіле ў купальніках і па ўсё тых жа класічных параметрах 90–60–90, гэтыя словы будуць заставацца сінонімамі. А мы будзем з прыкрасцю канстатаваць: самыя прыгожыя дзяўчаты "былі нашы, сталі вашы". Чыста па-чалавечы і тым больш па-жаночы я вельмі ўсцешана і за "Супермадэль свету-2006" Кацю Даманькову, якая выйшла замуж за піцерскага бізнесмена, і за сённяшнюю амерыканку ўдзельніцу "Місіс свету-2008" Кацярыну Ганага, і за заўсёдніцу незлічонай колькасці паказаў у сталіцах сусветнай моды супермадэль Марыну Лінчук, і за многіх іншых беларусак, якія паспяхова рэалізаваліся ў Еўропе, Азіі і Амерыцы. Але з пункта гледжання грамадзяніна маленькай, але гордай краіны… Безумоўна, ніхто не заклікае з мэтай захавання генафонду ўвесці разнарадку на прыгажунь па рэгіёнах і забараніць ім выезд за межы Беларусі (хоць я не здзіўлюся, калі спецыялісты планавай эканомікі прапануюць і такі ход). Але ўсё ж, калі прыгожыя паненкі – і гэта прызнаюць замежнікі, у тым ліку кіраўнікі мадэльных агенцтваў і арганізатары шматлікіх конкурсаў – з'яўляюцца нашым багаццем і стратэгічным рэсурсам, то, мабыць, варта яго неяк берагчы і прымнажаць?



*Тытул – гэта далёка не ўсё*

– Сёння паспяхова супрацоўнічаюць з вядучымі агенцтвамі свету і робяць мадэльную кар'еру каля 20 нашых дзяўчат, сярод самых паспяховых адзначу Анабелу (Анастасія Белікава), Кацю Касушкіну, – распавядае кіраўнік Студыі моды Сяргей Нагорны. – Колькі іх усяго ў Беларусі, мне цяжка адказаць дакладна, але, паколькі ліцэнзіі на работу ў сферы мадэльнага бізнесу за мяжой маюць усяго некалькі агенцтваў, думаю, што агульная лічба не нашмат большая. Усім вядомы сталіцы сусветнай моды – Нью-Ёрк, Мілан, Парыж, Лондан, і Мінску, натуральна, да іх вельмі далёка, таму аб'ём работы і сумы ганарараў для мадэляў тут намнога меншыя. Як змяніць сітуацыю да лепшага? Хацелася б, каб у Беларусі з'явіліся не 3-4 сапраўды модныя і запатрабаваныя дызайнеры, а мноства; каб павялічыўся модны рынак глянцу, каб больш увагі да падзей у модным свеце праяўлялі СМІ. Калі ўсё гэта адбудзецца, то ў дзяўчат прыбавіцца працы і вырастуць ганарары, тады больш людзей будуць зацікаўлены застацца ў Беларусі. Пакуль жа дзейнічае стандартная схема: калі мадэль зробіць сабе імя ў ЗША ці Еўропе, то і на радзіме яе будуць ведаць і цаніць.

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**

**P.S.** *Днямі адна з вопытных беларускіх мадэляў тэлевядучая Ірына Ханунік-Рамбальская выйграла міжнародны конкурс прыгажосці Mrs. Multiverse International http://www.mrsmultiverse.com/.*

# БРЫТАНЦЫ – ЗА БЕЛАРУСЬ

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стра. 5*

Каб патлумачыць стаўленне ўлад Беларусі (і карэннае адрозненне ад Літвы) да прадмету гутаркі, Дзінглі працытаваў урывак з нядаўняга выступу ў Мінску намесніка дырэктара Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры адміністрацыі Лукашэнкі прафесара Льва Крыштаповіча. "Калі ў нашу беларускую культуру цягнуць Радзівілаў, Сапегаў, Агінскіх як прадстаўнікоў беларускіх шляхетных родаў… Гэтыя імёны належаць іншай культуры, іншай ментальнасці… Спробы вывесці беларускую ідэнтычнасць з так званага Вялікага княства Літоўскага ляжаць у баку ад рэальнага працэсу нашага духоўнага ўмацавання і развіцця", – адзначыў Крыштаповіч.

Дзінглі прыгадаў, як на пачатку 90-х беларускія і літоўскія навукоўцы мелі намер стварыць супольную гісторыю ВКЛ, аднак да яе рэалізацыі справа не дайшла. Тым часам па шэрагу прынцыповых пытанняў яны дагэтуль выказваюць канцэптуальныя разыходжанні. Сярод іншых лідар Англа-беларускага таварыства нагадаў пра лёс Вільні, якую Сталін аддаў літоўцам у 1939-м узамен на размяшчэнне ў Літве савецкіх вайсковых баз.

Разважаючы пра тое, чаму літоўская гістарыяграфія апярэдзіла беларускую, Дзінглі адзначыў, што за савецкім часам літоўцы свабодна вывучалі і пісалі пра ВКЛ, а вось у БССР згадваць княства можна было мімаходзь і ў выключна негатыўным кантэксце.



*Абавязкова вернемся да сваіх нацыянальных сімвалаў*

## ЛІТОЎЦЫ ДАМІНАВАЛІ Ў ПАЛІТЫЦЫ, БЕЛАРУСЫ – У КУЛЬТУРЫ

Літоўскія гісторыкі прафесар Зеонас Норкус (Віленскі ўніверсітэт) і доктар Гантаўтас Слесарунас (Літоўскі інстытут гісторыі) прапанавалі адысці ад "панеўрапейскай з лёгкім беларускім ухілам" канцэпцыі Дэвіса і зірнуць глыбей.

Спецыялісты перавялі размову ў вузкую гістарычную плоскасць, засяродзіўшы ўвагу на спецыфічных працэсах і дэталях, незразумелых для 95% прысутных у зале. Гучалі вядомыя тэзы пра балцкае паходжанне тэрміна "Літва", знаходжанне Вільні на этнічнай балцкай тэрыторыі і інш. Пры гэтым літоўцы падкрэслена карысталіся беларускімі гістарычнымі картамі, аперыравалі інфармацыяй з беларускіх выданняў і адмаўлялі датычнасць да "літоўскай нацыяналістычнай гістарыяграфіі".

Трохі нечакана з вуснаў Слесарунаса прагучала, што ў ВКЛ балты дамінавалі ў палітыцы, а продкі цяперашніх беларусаў – у культуры.

З запоўненай залы пыталіся пра ДНК нашчадкаў ВКЛ, старабеларускую мову як афіцыйную і пра стаўленне літоўцаў да беларускай "Пагоні". "Нагадаю, змена сімволікі ў 1995-м была ініцыятывай Лукашэнкі, а не Літвы. Калі беларускі народ палічыць патрэбным зноў вярнуць гістарычныя сімвалы, то мы дакладна не будзем супраць", – адказаў Зеонас Норкус.

## ЗАХАД РОБІЦЬ ПРАЦУ БЕЛАРУСІ

Цягам дзесяцігоддзяў беларускія і літоўскія гісторыкі змагаліся за правы пераемнасці спадчыны ВКЛ. Яшчэ напрыканцы 19 стагоддзя літоўцы, якія апярэдзілі беларусаў з нацыянальным адраджэннем, атрымалі падтрымку расійскіх імперскіх, а потым і савецкіх ідэолагаў, дзякуючы чаму ім удалося распаўсюдзіць уласную трактоўку гісторыі.

Першым гэты міф для заходняга свету пахіснуў амерыканскі гісторык Цімаці Снайдэр. У кнізе "Рэканструяванне нацый: Польшча, Украіна, Летува, Беларусь (1569–1999)" ён па-навуковаму бесстаронна адлюстраваў месца і ролю беларусаў у ВКЛ, патлумачыў прычыны таго, чаму беларусы прайгралі літоўцам ідэалагічную бітву за спадчыну княства.

Увосень нароўні з працай Дэвіса выйшла кніга іншага брытанскага гісторыка Эндру Уілсана "Belarus: The Last European Dictatorship" ("Беларусь: апошняя еўрапейская дыктатура"), у якой таксама адлюстравана значная роля продкаў сучасных беларусаў у гісторыі ВКЛ.

Варта нагадаць яшчэ англамоўныя даследаванні ў гісторыі ВКЛ выкладчыка Садэртонскага ўніверсітэта (Стакгольм) беларускага паходжання Андрэя Катлярчука, каб прыйсці да высновы: пакуль беларуская дзяржава змагаецца з іншадумцамі, заходнія даследчыкі папулярызуюць яе гістарычную спадчыну. За 20 суверэнных год Інстытут гісторыі Беларусі НАН так і не здолеў выдаць акадэмічную "Гісторыю Беларусі" па-ангельску.

Дарэчы, уся дыскусія ў Лондане адбывалася па-ангельску, без перакладу. Арганізатарамі мерапрыемства выступілі Школа славянскіх і ўсходнееўрапейскіх даследаванняў Універсітэцкага каледжа Лондана і пасольства Літвы ў Вялікабрытаніі. Прадстаўнікі афіцыйнага Мінска на імпрэзе заўважаны не былі.

**КАСТУСЬ ЛАШКЕВІЧ, ЛОНДАН**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактор** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 23.03.12
Тыраж 299 экзэмпляраў